Народная Воля http://www.nv-online.info
23 СТУДЗЕНЯ 2018 г.

ПАДЗЕЯ



# Барочны арган на радзіме Чэслава Немэна

*Як беларуская вёска, дзе пражывае 30 чалавек, стала цэнтрам прыцягнення турыстаў з усяго свету.*

Нядаўна ў вёсцы Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна пасля амаль 60-гадовага маўчання пад скляпеннямі касцёла Святых Апосталаў Пятра і Паўла загучаў унікальны, адзіны на Беларусі, барочны арган XVIII стагоддзя. Перад прыхаджанамі і шматлікімі гасцямі выступілі квартэт "Акварэль", арганіст касцёла Святога Роха ў Мінску кампазітар Віктар Кісцень і салістка Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь Ірына Кучынская.

Інтрыга заключаецца ў тым, што старажытны арган знаходзіцца ў вёсцы, дзе нарадзіўся адзін з куміраў моладзі 1970–1980-х, славуты соул- і рок-музыкант Чэслаў Юліуш Выджыцкі, вядомы свету як Чэслаў Немэн. Нягледзячы на "жалезную заслону", у Савецкі Саюз усё ж пранікалі папулярныя рытмы рок-кампазіцый, у рэпертуары дваровых гітарыстаў з'явіліся хіты "Бітлз", а самыя модныя хлопцы адпусцілі валасы да плячэй. І на гэтым піку цікавасці да року ў 1976 годзе ў Мінску ў Палацы спорту дае канцэрт вядомы рок-кумір, польскі спявак Чэслаў Немэн. Гэта быў адзін з нямногіх рок-музыкантаў з сацыялістычнага лагера, які меў прызнанне на Захадзе. Па колькасці дыскаў ён канкурыраваў нават з культавымі "Бітлз". А хіт Немэна "Дзіўны гэты свет…" (Dziwny jest ten swiat) стаў своеасаблівым гімнам пратэстнай моладзі, якая была незадаволена карыслівасцю і раўнадушным эгаізмам навакольнага асяроддзя.

Ажыятаж у Мінску напярэдадні канцэрта быў неверагодны. Але сярод жадаючых трапіць у лік слухачоў нямногія ведалі, што славуты спявак – наш зямляк: нарадзіўся ў Беларусі, хадзіў у савецкую школу, паступіў у Гродзенскае музычнае вучылішча, слухаў беларускія песні, любіў тутэйшы пейзаж, і толькі ў канцы 1950-х яго сям'я пераехала ў польскі Гданьск… Тыя, каму пашчасціла пабываць на канцэрце, запомнілі неверагодную харызму і энергетыку спевака і доўга жылі ўражаннямі ад сустрэчы з новымі рытмамі, новымі музычнымі плынямі.

Свой першы конкурс Чэслаў выйграў у 1962 годзе на польскім фестывалі маладых талентаў, а ў хуткім часе з групай Niebiesko-Czarni накіраваўся ў еўрапейскі тур. Адзін з арганізатараў падчас напісання афішы для парыжскай "Алімпіі" сказаў Чэславу: "Паслухай, французы не вымавяць твайго прозвішча – Wydrzycki. Проста не змогуць. Можа, табе падабраць псеўданім?" Тады Чэслаў прыгадаў любімую раку свайго юнацтва – Нёман. Кажуць, палякі доўга крыўдавалі…

Старыя Васілішкі сёння сустракаюць сваіх гасцей вялікім плакатам, з якога ўсміхаецца доўгавалосы чалавек з прыветлівым позіркам – Чэслаў Немэн. Гэты вельмі ўдалы яго фотапартрэт стаў першым экспанатам музея спевака, што створаны ў доме братоў Выджыцкіх. На палове бацькі Чэслава ўсё гаворыць пра захапленні і схільнасці яго жыхароў – піяніна, акардэон. Наогул, Выджыцкія пры неабходнасці маглі сыграць на любым інструменце – надзвычай музычная была сям'я. У музеі захоўваецца фотаздымак духавога аркестра вёскі Старыя Васілішкі – адзінага на ўвесь раён! Яго арганізавалі, вядома ж, браты Выджыцкія. У такім асяродку рос маленькі Чэсік. А калі дома ўключалі патэфон, хлопчык казаў: "Хутка мае песні будзеце слухаць!" Так і сталася. Сёння ў доме-музеі Чэслава Немэна падчас шматлікіх экскурсій або свят гучаць песні земляка.

У Старых Васілішках на сённяшні дзень пражывае 30 чалавек, а музей Чэслава Немэна ў 2017 годзе наведала некалькі тысяч яго паклоннікаў з усяго свету! Прыязджалі з многіх краін Еўропы, а таксама здалёку – са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Індыі, Чылі, Шры-Ланкі.

А між іншым, родны дом спевака мог і не вытрымаць выпрабавання часам і не дачакацца свайго адраджэння. У 2009 годзе ў Старыя Васілішкі прыехала група кінадакументалістаў, якія здымалі фільм пра Чэслава Немэна. У іх ліку была сцэнарыст Вера Савіна, асабіста знаёмая з музыкантам. У вёсцы здымачная група са здзіўленнем даведалася, што цудам яшчэ захаваўся дом Выджыцкіх. Старэнькі, закінуты, але захаваўся. Пасля ад'езду яго гаспадароў у Польшчу дом набыла райспажыўкааперацыя, і на працягу 23 гадоў тут працаваў магазін. Потым дом пуставаў. Стварыць музей спрабавала сястра музыканта, але цяжкасцяў аказалася зашмат. І толькі дапамога папячыцельскага савета на чале з Верай Савінай дала вынік.

А затым аказалася, што гэта не адзіная славутасць Старых Васілішак. *"Пасля адкрыцця дома-музея Немэна ў поле нашага зроку трапіў арган мясцовага касцёла Святых Апосталаў Пятра і Паўла,* – прыгадвае мастацтвазнаўца Таццяна Бембель. – *Выявілася, што касцёл таксама звязаны з сям'ёй Чэслава Немэна, менавіта яго бацька Антоній Выджыцкі рамантаваў і настройваў той арган, на адной з труб нават захаваўся надпіс з яго імем".*

Дарэчы, у гэтым касцёле хрысцілі Чэслава, тут, кажуць, ён спяваў у хоры падчас службаў разам з бацькам. Нездарма любімым яго інструментам быў электраарган. Пэўна, невыпадкова і тое, што Чэслаў Немэн прайшоў шлях ад рок-н-рольшчыка праз пратэстны рок і соул-рок-фьюжн да духоўных твораў паводле класічнай польскай паэзіі, якія ён ствараў на схіле жыцця.

Арган у касцёле члены папячыцельскага савета знайшлі ў жахлівым стане: трубы перакручаныя, клавішы выламаныя. Здавалася, вярнуць да жыцця скалечаны сучаснымі вандаламі старажытны інструмент немагчыма. Але энтузіясты пачалі шукаць варыянты аднаўлення. Адазваліся маскоўскія спецыялісты Дзмітрый Лотаў і Уладзіслаў Іодзіс. Грошы на рэстаўрацыю збіралі ўсёй грамадой. Чатыры гады аднаўлялі дэталі, і, паводле меркаванняў беларускіх спецыялістаў, рэстаўратарам удалося захаваць барочную спецыфіку гучання аргана.

Пад гукі ажыўшага аргана імша была неверагодна ўрачыстай. А калі арган заціх, скляпенні храма раптам напоўніў глыбокі прыгожы голас Чэслава Немэна. Гэта на экране праз праектар запусцілі запісы выступленняў легендарнага спевака. Кампазіцыі з гучаннем электронных інструментаў і выкананне духоўнай паэзіі, у прыватнасці твораў Цыпрыяна Каміля Норвіда, вядомага польскага літаратара XIX стагоддзя, былі вельмі арганічнымі для залы касцёла.

А затым надышоў час мінскім музыкантам выпрабаваць барочны арган. Адноўлены пакуль што толькі тры яго рэгістры з дзесяці, на далейшыя работы шукаюць сродкі.

*"Дзіўна, што нават тры рэгістры даюць такое глыбокае барочнае гучанне,* – дзеліцца арганіст касцёла Святога Роха ў Мінску кампазітар Віктар Кісцень, якому выпала першым з гасцей сесці за старажытны інструмент. – *Гэта цудоўна, што рэстаўратары дакладна аднавілі аўтэнтычныя дэталі, а не сталі спрабаваць замяніць іх на сучасныя. Дакрануцца да клавіш, на якіх да цябе іграла некалькі пакаленняў арганістаў розных эпох, – тут прыходзіць асаблівае натхненне!"*

Родная вёска Чэслава Немэна перажывае цяпер небывалую да сябе цікавасць. Дзякуючы ўнікальнаму барочнаму аргану ў касцёле, дзякуючы асобе славутага ўраджэнца быць жыхаром гэтай вёскі стала ганарова. Нават ёсць людзі, якія купляюць тут дамы, каб развіваць сельскі турызм. Гэта, вядома ж, радуе: ёсць усе падставы, каб Старыя Васілішкі заззялі, нібыта брыльянт, на турыстычнай карце Беларусі.

### ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

Сваю песню "Czy mnie jeszcze pamietasz" ("Ці памятаеш ты яшчэ мяне?"), якую Чэслаў Немэн напісаў у 1964 годзе, ён у хуткім часе падараваў славутай Марлен Дзітрых, а кіназорка, выконваючы кавер на нямецкай мове, прысвяціла песню сваёй маці.

Чэслаў Немэн у другой палове 1960-х ушчэнт разбіў стэрэатыпы, паводле якіх рок-музыка магла гучаць выключна на англійскай мове. Яго песні на польскай гучалі ў славутай французскай "Алімпіі", а буйнейшае амерыканскае выдавецтва "CBS" прапанавала яму выдаць некалькі альбомаў, дзе таксама былі песні на польскай мове.

На аргане ў Старых Васілішках не захавалася фірменных знакаў, але рэстаўратары ўстанавілі па канструктыўных асаблівасцях, што гэта, хутчэй за ўсё, тварэнне майстэрні Фрыдрыха Самуэля Янтцона з Гамбурга. Ён працаваў у XVIII–XIX стст., і некалькі яго малых арганаў захаваліся ў Літве. На Беларусі ёсць яшчэ адзін яго арган – у Будслаўскім касцёле (захаваўся да нашых дзён з мінімальнымі зменамі).

**Кацярына АГЕЕВА.** ("Алеся".)

ЭКСТРЭМАЛЫ

# Чаму людзі лезуць у ледзяную ваду?

У мінулыя выхадныя ў Мінску завяршыўся этап Кубка свету па зімовым плаванні. Каля 400 спартсменаў з 18 краін свету спаборнічалі ў басейне на рацэ Свіслач, і ніякі мароз іх не палохаў.

Карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся ў некаторых удзельнікаў спаборніцтваў, чаму яны вырашылі заняцца экстрэмальным відам спорту.

**Елізавета ЧЫЖОВА (г.Уладзівасток):**

– Каля пяці гадоў займаюся зімовым плаваннем, гэта ў нас сямейнае. Спачатку мама пачала загартоўвацца, затым і я захапілася ў 13 гадоў. Хаця, калі першы раз залезла ў ваду вясной, мне было так холадна, што, здавалася, не вытрымаю. Зараз зусім іншыя адчуванні, і холад, калі плыву ў зімовым басейне, на трэцім плане. Але маржаванне для мяне – дакладна не спорт. Хутчэй за ўсё, захапленне.

**Наталля ПУЗАНАВА (г.Елгава, Латвія):**

– У мяне стаж загартоўвання – 20 гадоў. Муж таксама прыехаў разам са мной на спаборніцтвы ў якасці спартсмена, дачка гэтым захапляецца. У нас непадалёку ад дома знаходзіцца Клуб маржавання і плавання. Неяк паспрабавалі – спадабалася. А зараз гэта ўжо як стыль жыцця. Не можам жыць без гэтага.

**Мікалай ВОЛЬХІН (г.Водкінск, Удмурція):**

– Хутка ўжо 20 гадоў будзе, як аддаю перавагу зімоваму плаванню, хаця раней займаўся па сістэме Парфірыя Іванова. Зараз мне 72 гады, а адчуваю сябе на пяцьдзясят, бо прытрымліваюся здаровага ладу жыцця. Трэніроўкі, гімнастыка, здаровае харчаванне. Я недзе прачытаў, што ежу трэба перажоўваць 33 разы, тады страўнікавы сок добра выдзяляецца. Дарэчы, у магазінах каўбасы лепш не купляйце, я ад іх наогул адмовіўся. Небяспечна для здароўя.

Зараз чатыры разы на тыдзень купаюся ў ледзяной палонцы, пастаянна прымаю кантрастны душ і абавязкова раз у 5–7 дзён хаджу ў лазню. Увогуле, яшчэ Сакрат казаў, што самы моцны тэрапеўтычны сродак – гэта купанне ў ледзяной вадзе, бо абуджаюцца ўсе клеткі галаўнога мозгу і арганізм аздараўліваецца. І яшчэ важны момант: чалавек, які купаецца ў палонцы, не павінен ні грама выпіваць, бо ўсё можа закончыцца трагічна.

**Алена НЫРЦОВА (г.Мінск):**

– Я ўсяго два гады займаюся зімовым плаваннем. Неяк на Вадохрышча акунулася ў палонку, з таго часу гэта стала для мяне як хобі. Дарэчы, сама я – прафесійны трэнер па сучасным пяцібор'і, але пры магчымасці заўсёды бяру ўдзел у такіх экстрэмальных спаборніцтвах. Гэта ж адно суцэльнае здароўе! Паспрабуйце самі – не пашкадуеце…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**



Алена Нырцова.



Елізавета Чыжова.

МАЗАІКА

## Мільён туды, мільён сюды…

*Мінскі хакейны клуб «Дынама» выдаткоўвае на кантракты ігракоў амаль 13 мільёнаў долараў за год.*

Як паведамляюць спартыўныя СМІ, "Дынама" накіроўвае на заробкі хакеістаў больш за 10 мільёнаў долараў за год, а яшчэ 2,5 мільёна долараў прыпадае на бонусы.

Нагадаем, што "Зубрам" у рэгулярным чэмпіянаце КХЛ засталося правесці 4 матчы. Зараз "Дынама" ў сваёй канферэнцыі займае 10-е месца, і ўжо сёння з вялікай доляй верагоднасці можна спрагназаваць, што ў плэй-оф каманда не патрапіць.

## На старце…

*На зімовых Алімпійскіх гульнях-2018 ад Беларусі плануюць выступіць 29 атлетаў.*

Спартсмены будуць прадстаўлены ў шасці відах спорту: біятлоне, гарналыжным спорце, канькабежным, лыжных гонках, фрыстайле, шорт-трэку. Ва ўсіх астатніх відах спорту ліцэнзіі беларусаў з'яўляюцца прамежкавымі.

Канчатковая колькасць ліцэнзій на зімовую Алімпіяду будзе вядома напрыканцы студзеня.

Нагадаем, што зімовая Алімпіяда пройдзе з 9 па 25 лютага ў карэйскім Пхёнчхане.




ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Меня радует малина

В прошлом году я собрала неплохой урожай малины. В чем же секрет успеха? Хочу поделиться опытом.

В качестве посадочного материала использую стандартные саженцы, зеленые отпрыски, корневые черенки. Я за двухстрочную посадку растений. В этом случае даже при сильных ветрах побеги не ломаются, они оказываются как бы под защитой друг друга, поэтому их подвязываю.

У меня шесть рядов по 10 метров длиной. Ряд от ряда отстоит на 1–1,2 м и 0,25 м в ряду. Ширина плодоносящей полосы 0,5–6 метра. На один погонный метр оставляют 10–12 мощных, равномерно размещенных побегов.

Чрезмерное загущение и плодоносящих, и отрастающих побегов пагубно для урожая. Поэтому лишние вырезаю в период интенсивного роста, то есть весной-летом, когда отрастающие молодые побеги имеют длину 0,7–1 метр. Подрезаю их на высоте двух-трех почек от земли: этим сдерживаю рост и растения все свои силы отдают на образование ягод. Получаются они крупные, раньше созревают, так как лучше освещаются, проветриваются. Потому и меньше болезней и, что немаловажно, удобно собирать урожай.

Когда он собран, все отплодоносившие побеги вырезаю, а побеги замещения свободно растут и к осени успевают вырасти и вызреть. И земля в междурядьях не гуляет. Рано весной я ее использую для выращивания редиски, зелени.

**Галина ДАЩИНСКАЯ.**
*Щучинский район.*

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Темные пятна на томатах

***Я – начинающая дачница. Урожаем огурца в прошлом году довольна. А вот с томатами возникла проблема. Растения развивались хорошо, но, когда стали появляться плоды, почему-то на них в самом верху начали образовываться темные пятна. И плоды пришлось закапывать в землю, чтобы болезнь не распространялась на участке. Объясните, пожалуйста, что это за болезнь и что нужно делать, чтобы ее не было.***

**Людмила ЖЕМЧУГОВА.** *г.Толочин.*



Это, судя по описанию, вершинная гниль плодов. Появляется она в самом начале плодообразования. Поражение начинается с небольшого водянистого пятна на вершине плода, затем оно темнеет и вдавливается. Пораженный плод становится твердым и сухим.

Основной причиной возникновения болезни является дефицит влаги, особенно в самом начале плодоношения, и недостаток кальция. Особенно неблагоприятно для растений сочетание дефицита кальция и избытка магния в почве. Сухая и жаркая погода, а также избыточное или одностороннее внесение азотного удобрения усиливают проявление вершинной гнили. При недостатке влаги листья «перехватывают» воду, поступающую к плодам, в результате чего и образуется вершинная гниль.

Что делать? Устраняйте недостатки, которые могут быть во время роста и плодоношения томатов, то есть соблюдайте режим водоснабжения и питания растений.

ЧТО МЫ ЗНАЕМ О СОРНЯКАХ

## Звездчатка средняя (мокрица)



Сорное растение. Распространено повсеместно. Засоряет посевы зерновых, пропашных, овощных культур, луга. Размножается семенами и частями стебля.

Корень ветвистый, слабый. Стебли длиной до 90 сантиметров. Хорошо развитые кусты иногда покрывают целые участки. Особенно вредоносен сорняк в парниках и теплицах. Цветки мелкие, на длинных цветоносах. Цветет с ранней весны до осени.

Плоды – продолговатые многосемянные коробочки. При созревании они свешиваются верхушкой вниз, раскрываются, и семена высыпаются. Масса 1 тысячи семян – до 0,5 грамма.

Минимальная температура прорастания семян плюс 2–4 градуса, оптимальная – 18–26. Всходы появляются в марте-мае, летом и осенью.

За лето звездчатка дает 2–3 поколения. Период от вегетации до созревания семян продолжается около 45 дней. Плодоносит с мая до октября. Одно растение образует до 20 тысяч семян. Максимальная плодовитость их 25 тысяч. Они прорастают с глубины не более 4–5 сантиметров. Жизнеспособность сохраняют до 30 лет.

РАСТЕНИЯ ЛЕЧАТ

## Жимолость

В каждом плодике этого растения удачно сочетаются витамины С и Р, взаимно усиливая действие друг друга. Они способствуют укреплению капилляров, снижают кровяное давление. Наличие в соке пектиновых веществ обуславливает антирадиационное действие ягод, защитную роль против интоксикации организма тяжелыми металлами.

А еще, и это немаловажно, в ягодах есть редко встречающийся в живой природе микроэлемент селен – «элемент молодости». Кроме жимолости он обнаружен лишь в плодах черники и голубики (не считая овощей). Благодаря комплексу биологически активных веществ, жимолость – целебный диетический продукт, эликсир жизни.

К тому же она не имеет карантинных вредителей и болезней, нет необходимости в обработке растения ядохимикатами. Жимолость устойчива к возвратным весенним заморозкам. Цветки выдерживают заморозки до минус 7 градусов.

Жимолость – кустарник высотой от 1 до 2,5 метра, переопыляется насекомыми. Поэтому в саду надо иметь не менее двух сортов одного вида. Один из них (самый распространенный) – жимолость камчатская. Она вступает в плодоношение уже на 3–4-й год после посадки. У нее больше, чем у других видов, сладкоплодных форм. Второй вид – жимолость алтайская. У нее более поздний срок созревания ягод (вторая половина июня), нередки горькоплодные формы.



РАЗВІТАННЕ

## Спачуваем…



Былы галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі па плаванні **Дзмітрый Манцэвіч** памёр на 59-м годзе жыцця.

Раней Манцэвіч доўгі час працаваў у Славеніі. Вярнуўшыся ў Беларусь, ён трэніраваў маладых плыўцоў. Многія з яго выхаванцаў уваходзяць цяпер у асноўны склад нацыянальнай каманды.

Апошнім часам Дзмітрый Манцэвіч мужна змагаўся з цяжкай хваробай.

Адрас рэдакцыі:
220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная:
тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел
(017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

9 772071 964000 18007

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 22.01.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 340 экз. Заказ № 156.